*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова



Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 16(350) 29 КРАСАВІКА 1998 г.

## Чарнобыльскі шлях - 98

*фотарэпартаж Уладзіміра Хрышчановіча*









### "Чарнобыльскі шлях-98" праводзіўся, каб

1. Дабіцца адмены дэкрэтаў і ўказаў, якія пазбаўляюць чарнобыльцаў ільготаў і прывілегій.
2. Не дапусціць пасылкі маладых людзей ў забруджаныя раёны, каб не калечылася моладзь ад радыяцыі.
3. Спыніць сельскагаспадарчую дзейнасць у забруджаных раёнах, каб не труцілі народ радыеактыўнымі прадуктамі.
4. Зняць усе абмежаванні на гуманітарную дапамогу, што аказваецца ахвярам катастрофы айчыннымі і замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі.
5. Дабіцца ад Расеі, якая нясе поўную адказнасць за асаджэнне чарнобыльскіх аблокаў на Беларусь, прызнання яе віны і кампенсацыі нанесеных стратаў нашай краіне.

## Дні беларускай мовы і літаратуры ў Магілёве

З 4-га па 7-е травеня ў рамках дзён беларускай мовы і літаратуры адбудуцца сустрэчы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Васіля Сёмухі, Алеся Разанава, Вячаслава Ракіцкага, Міхася Скоблы з вучнямі, студэнтамі і жыхарамі г. Магілёва. Арганізуюць сустрэчы Рэспубліканская рада, Магілёўская абласная і гарадская рады ТБМ імя Францішка Скарыны.

## Канферэнцыя ТБМ у Лідзе.

Падобна на тое, што ў Лідскіх арганізацыях Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы з'явілася другое дыханне. Нядаўна была праведзена канферэнцыя ТБШ, а 16 красавіка ў Лідскім гарадскім доме культуры прайшла канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На канферэнцыі прысутнічала 117 дэлегатаў ад 69 першасных суполак ТБМ г. Ліды і Лідскага раёна. Усяго ж перад канферэнцыяй пацвердзілі сваё існаванне больш 80 суполак ТБМ.

На канферэнцыі прысутнічала больш 40 гасцей. Сярод іх старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ Генадзь Бураўкін, старшыня Лідскага гарсавета Аляксандр Рамановіч, дырэктары школаў, заводаў, настаўнікі, студэнты, вучні.

Канферэнцыя з'яднала ўсе суполкі горада і раёна і аб'явіла пра ўтварэнне Лідскай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны (Дагэтуль дзейнічала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ і асобныя суполкі ў раёне).

Канферэнцыя абрала новую раду ТБМ Лідчыны. Старшынёй стаў слесар завода "Лідахарчканцэнтрат" Лявон Анацка, дэпутат Лідскага гарсавета.

У раду ўвайшлі:

В. Баранаў — загадчык аддзела агработы райвыканкама

М. Ёрш — загадчык аддзела культуры гарвыканкама

Т. Крыпуць — інспектар аддзела адукацыі гарвыканкама

А. Ганько — рабочы "Лідсельмаш", старшыня Згуртавання Лідскай моладзі імя Гедыміна

М.Ганчар — завуч СШ № 16

М. Мельнік — выкладчык Лідскага педвучылішча

А. Пігулеўскі — майстар Лідскіх энергасетак

А. Сокал — дырэктар СШ № 15, дэпутат аблсавета, старшыня Лідскай рады ТБШ

С.Суднік — рэдактар газеты "Наша слова"

А. Ходар — эканаміст завода "Лідахарчканцэнтрат"

Асноўная задача, якую паставіла канферэнцыя — гэта барацьба за беларускамоўныя першыя класы. Сёлета іх у Лідзе 52 працэнты. Далейшае адстуўленне не магчыма.

Канферэнцыя абмеркавала і тактычныя хады працы. У самы бліжэйшы час неабходна падняць два пласты: дзіцячыя садкі і сем'і. Работа велізарная, магчыма непасільная, але дарогу адолее той хто ідзе.

***Усяслаў Войніч.***

## Ахвяраванні на ТБМ

Алесь Сярожнік,Ворша - 200 т.
Валянцін Карпуць - 200 т.
Ж.В.Я. -200 т.
Уладзімір Голубе -100 т.
Галіна Пархімчук - 50 т.
Святлана Багданкевіч -110 т.
Людміла Літвінава - 50 т.
Аркадзь Галай -100 т.
Мікалай Дзялід -300 т.
Гарадоцкая Рада ТБМ:
—суполка ТБМ СШ № 2 -170 т.
—суполка ТБМ СШ № 1 - 80 т.
— Гарадоцкая базавая Рада ТБМ -100 т.
Суполка ТБМ "Зялёны Луг", г.Менск -140 т.
Суполка ТБМ "Сотвар" -120 т.
Фастовіч Ю.П. -450 т.
Рада ТБМ Ленінскага р-на, г.Менск -100 т.
Валеры Палсцюк -100 т.
Міхась Швэдзюк, Англія - 1 млн.575 тыс.
Суполка N 5 рады БНФ Ленінскага р-на г. Менска -500 т.
Сябры бел.грамадска-культурнага таварыстваў Санкт-Пецярбургу
1.Віктар Валынец -10р.руб.
2.Лявон Габрусёнак -10р.руб.
3.Валянцін Грыцкевіч -50р.руб.
4.Ал-др Дабравольскі-10р.руб.
5.Анатоль Кірвель -10р.руб.
6.Аўгіння Кавалюк -10р.руб.
7.Пётра Кропаў -10р.руб.
8.Рыгор Купрыяшчанка10р.руб
9.Ігар Мацыеўскі -10р.руб.
10.Людміла Мельнікава-5р.руб
11.Мікола Нікалаеў -10р.руб.
12.Маргарыта Пярова -10р.руб.
13.Наталля Пярова -10р.руб.
14.Анатоль Разумаў - 5р.руб.
15.Сяргей Сідарук -10р.руб.
16.Данута Сергіенка -10р.руб.
17.Уладзімір Сяргееў -10р.руб.
18.Марыя Ткачэнка -10р.руб.
19.Іван Чарнякевіч -10р.руб.
20.Стэфан Шурко - 5р.руб.

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

"А адносна нацыянальнай свядомасці беларусаў ... Мяне вельмі здзіўляе, што на вуліцах Мінска я практычна не чую беларускай гаворкі.

А гэта сведчыць аб многім ... "

"Народная воля" 3.04.98г. ***Інгрыда Леўрэнцэ, Часовы Павераны ў справах Латвіі ў РБ.***

**Ну і Ну!**

*"Пагоршыла сітуацыю і стварэнне дзяржзаўнай камісіі па падручніках, якую ўзначальвалі то Замяталін, то Стражаў. Высветлілася, што Арсенневу, Сяднёва і Геніюш выкінулі з праграмы з санкцыі такіх салідных асоб, як І.Навуменка, У. Гніламёдаў, В. Рагойша."*

***Галоўны інспектар Міністэрства адукацыі Т.М.Саўчук. ЛІМ 3.04.98г.***

P.S. Прачытаўшы такое застаецца толькі сказаць: "Ну і Ну !" Толькі "Ну і Ну" сказалі ў наступным нумары "ЛіМа" І. Навуменка, У.Гніламёдаў, В.Рагойша сваім допісам наконт таго, што "ніхто не пытаў у іх згоды ні на ўключэнне ў праграму сярэдняй школы твораў названых вышэй пісьменнікаў, ні на іх выключэнне". Як заўжды, няма вінаватых.

* * *

Мы не звязваем свае ўяўленні пра расейцаў у Беларусі з русіфікацыяй, бо, яны, расейцы, такі самы аб'ект гэтай русіфікацыі як і мы. Яны, як правіла, не займаюцца беларусаедствам, таму мы іх не вылучаем з агульнай масы.

***Наша Ніва №7 13.04.98г.***

* * *

"Багатых людзей, якія б гэтак любілі сваю Бацькаўшчыну, каб маглі фундаваць розныя пректы дзеля яе духоўнага росквіту, мала, здаецца, што й зусім няма. А між тым, Бацькаўшчына для ўсіх нас была і застаецца адна. Гэта — родная, любая сэрцу Беларусь.

Яе я і слаўлю ў сваіх песнях.

***ЛіМ № 15 10.04.98г.***
***"І пачынаю йграць зтрывогай нейкай... "***

* * *

*Спяваем па-беларуску, і гэта цудоўна !*

*А вось гаворым ... На трасянцы. У інтэр'ю дзяцей, паказаных на экране, беларуская ідэя фестывалю, можна лічыць, звялася на нішто.*

***ЛіМ № 16 17.04.98г.***
***Спяваем па-беларуску. С.Берасцень***

## "Рабочий" не забывае пра родную мову.

У сакавіцкім нумары бюлетэня свабоднага прафсаюза "Рабочий" № 9 на першай старонцы змешчаны два здымкі з пікета ТБМ, што адбыўся у мікрараёне г. Менска "Серабранка"

Пікетоўшчыкі трымалі наступныя плакаты "Запісвайцеся ў Таварыства беларускай мовы", "Падпісвайцеся на "Наша слова", "З 80-годдзем Беларускай Народнай Рэспублікі!" Вельмі прыемна, што карэспандэнты прыйшлі на пікет, зрабілі адпаведныя здымкі і змясцілі іх на першай старонцы 30-тысячнага выдання для беларускіх рабочых. І гэта ў той час, калі журналісты з "прыкормленага" пануючай уладай ЛІМа, ходзяць па школах і высвятляюць як ідзе падпіска на дзяржаўныя беларускамоўныя выданні, быццам не існуе у прыродзе такіх газет і часопісаў як "Пагоня", "Наша Ніва", "Наша слова" і "Спадчына". Таму не выпадкова што наклад былога "флагмана перабудовы" ЛіМа скараціўся да 4275 экземпляраў. Задача недзяржаўнага "Нашага слова" дасягнуць гэтых лічбаў у другім паўгоддзі 1998 года.

***Алег Трусаў.***

# У Полацак без экскурсавода

**Цехановіч Зміцер**

**I**

*Мяне даўно маніў к сабе*
*сівагорбыПолацк сваім*
*рамантычным мінулым,*
*сягаючым у легендарныя*
*часы ...*
*Вацлаў Ластоўскі*
*"Лабірынты"*

**По - ла - цак.**

Прахапляе даўнінай, па-беларуску шляхетнае, роднае слова.

Полацак.

Горад Беларускі. Апяяны ў старажытных летапісах і скандынаўскіх сагах.

Адзін з сямі гарадоў Усходняй Еўропы, дзе вядома дзесяць і болей помнікаў дойлідства XI — XII стагоддзяў.

Горад, у якім была самая старажытная — існавала з сярэдзіны XI стагоддзя — бібліятэка на Беларусі.

Горад святыняў, легендаў, таямніцаў і ... скарбаў. Колькі іх, гэтых скарбаў, аддавалася на захаванне полацкай зямліцы падчас нярэдкіх чужацкіх навалаў ! Па сведчанні аўтарытэтнага беларускага гісторыка Уладзіміра Арлова, па колькасці знойдзеныхх скарбаў Полаччына займае ці не першае месца ў Еўропе.

Але найкаштоўнейшыя скарбы Полацку — духоўныя. Вось чаму Беларускае Сэрца і покліч слаўнай мінуўшчыны раней ці пазней прыводзяць сюды. Пахадзіць. Судакрануцца. Памарыць. Адчуць усю важкасць свайго роду.

Горды Сафійскі сабор ... Намоленыя муры Спаса - Еўфрасіннеўскай царквы ... Тут вусны самі вышэптваюць трапятліва: "Магутны божа ..."

"Мяне даўно маніў наш сівагорбы Полацк ...! Памятаеце Ластоўскага ?

**Буднікава Людміла**

**II**

Сезон вандровак і падарожжаў заканчваецца зазвычай да пачатку лістапада.

Адны, як веснавыя птушкі, вяртаюцца з Турцыі, Кіпра альбо Туніса, іншыя з сумам развітваюцца з крымскім пейзажам альбо балгарскім сонцам. Але для сапраўдных падарожнікаў не існуе ні сезонаў, ні дрэннага надвор'я.

Аднойчы, восеньскім вечарам, сабраўшыся разам з сябрамі, мы вырашылі здзейсніць падарожжа ў Полацак. Я была вельмі рада такому рашэнню, бо мяне гэты горад прыцягваў даўно і пабываць у ім было маёй запаветнай марай ...

У дарогу мы выправіліся прахалоднай лістападаўскай раніцай ...

Мае сябры не толькі лёгкія на пад'ём, але і аматары гісторыі, таму нам не давялося сумаваць на шляху да Полацка і чатырохгадзінны шлях дарогі праляцеў вельмі хутка. Аддаючу належнае Мінуламу, мы ўспомнілі знакамітых палачанаў: першага вядомага з летапісаў полацкага князя Рагвалода, яго гордую дачку Рагнеду, асветленага неўміручай славай Усяслава Чарадзея, апякунку Зямлі Беларускай Еўфрасінню Полацкую, першадрукара Францішка Скарыну і многіх іншых. Кожнае імя — лёс асобы і падзея ў гісторыі краіны ...

І вось мы ў Полацку. Як і восем стагоддзяў таму, лунае светлай птушкай над Дзвіною Сафійскі сабор. Высокі, круты бераг, парывісты вецер з боку ракі, шэрыя хвалі; на супрацьлеглым баку хваёвы лес з рэдкімі жоўтымі плямамі ліставых дрэў. Стоячы тут, нельга не ўспомніць герб Полацка — карабель пад поўнымі ветразямі. Куды кіруецца гэты карабель? Вядома: "з варагаў у грэкі..."



Жадаючых наведаць Полацкую Сафію было шмат, таму каб не марнаваць часу ў чаканні чаргі, мы спусціліся да ракі і пайшлі ў Музей кнігадрукавання, размешчаны ў адным з будынкаў былога кляштара. Па дарозе заўважылі прыгожую пабудову з чырвонай цэглы. Як высветлілася, гэта была кірха, зараз краязнаўчы музей горада Полацка. Адразу нагадалася знакамітая талерантнасць беларусаў: кірха паміж праваслаўнымі святынямі.

У Музеі кнігадрукавання, мы дакрануліся да першых спробаў людзей матэрыялізаваць свае веды і думкі на керамічных плітках, папірусе, бяросце; уявілі, як магла выглядаць адна з першых кніг — кітайская веерная кніга. Не маглі не ўразіць старажытныя рукапісныя кнігі з каляровымі застаўкамі і ілюстрацыямі. Калі адна такая кніга перапісвалася год і болей, нельга пераацаніць тое, што зрабіў Францішак Скарына для Беларусі і ўсіх усходніх славян: засвоіў друкарскі станок і механізаваў кнігавыдавецкую справу.

Першыя 23 кнігі Бібліі, выдадзеныя Скарынам, выйшлі ў свет у Празе ў 1517-19г.г. Дата, як быццам, не юбілейная, але гэтая падзея адзначылася ў Чэхіі, і таму мы не ўбачылі арыгіналаў скарынаўскіх кніг. Яны знаходзяцца на выстаўцы ў Празе...

Пасля музея мы вярнуліся ў Сафійскі сабор на арганны канцэрт, але перад яго пачаткам спусціліся ў падзямелле і агледзелі падмурак сабора XI стагоддзя.

Арган заўсёды настройвае на філасофскі лад, таму ў Спаса-Еўфрасіннеўскі кляштар мы ехалі заглыблена-роздумныя.

Наведванне кляштара сталася моцным завяршальным акордам усёй паездкі.

Невялікая Спаса-Еўфрасіннеўская царква, пабудаваная доўлідам Іаанам усяго за тры месяцы,чаруе сваёй сціплай, стрыманай прыгажосцю. Еўфрасіння Полацкая была фундаторкай гэтага храма. Тут знайшлі спакой яе святыя мошчы. На сценах царквы нейкім цудам захаваліся фрэскі XII стагоддзя. Лічыцца, што з адной з іх на нас глядзіць сама Еўфрасіння...

На змярканні, прыемна стомленыя, незабыўна ўражаныя ўбачаным і пачу-тым, мы пакідалі Полацак ...

Для мяне гэты горад стаў яшчэ больш прывабным. Буду спадзявацца на новую сустрэчу з ім.

**Мускі Барыс**

**III**

Аднім лістападаўскім леташнім днём сяброўская грамада менчукоў ( а між іх - і аўтар гэтых радкоў) выправіліся ў вандроўку з сучаснай сталіцы Беларусі ў сталіцу старажытную - слаўны горад Полацак.

Зборы ў так жаданую і, разам з тым, першую для многіх з нас паездку не былі доўгімі: замовіць аўтобус сённяшнім часам няма праблемаў аніякіх (былі б грошы!), а спецыяльны экскурсавод нам быў непатрэбны, бо для тых, хто захапляецца беларускай мінуўшчынай, "таямніцы полацкай гісторыі" не такія ўжо і недасяжныя.

Такім чынам, у старажытную беларускую сталіцу мы рушылі з добрым настроем і расповядамі пра полацкую даўніну і славутых палачанаў. Галоўным нашым павадыром па старонках полацкай гісторыі была цудоўная беларуская дзяўчына, якая працуе бібліятэкаркай у Беларускім гуманітарным ліцэі - Ірына Каваль.

Змястоўная інфармацыя на роднай мове, прыгожыя краявіды за вокнамі аўтобуса зрабілі наш шлях да мэты падарожжа карацейшым і цікавейшым.

Праз чатыры гадзіны дарогі, нават тыя, хто ніколі не бываў у Полацку, сустракаліся з ім, як са старым знаёмцам.

Магутная Дзвіна ... Стромкія вежы Полацкай Сафіі ...

Вось ён, горад, які выпеставаў першадрукара ўсходніх славян - Францішка Скарыну. Таму цалкам натуральна, што для турыстаў адным з найбольш прыцягальных месцаў Полацка з'яўляецца Музей кнігадрукавання. З яго пачала сваё знаёмства з горадам і наша грамада .

"Вядомы факт, **што на тэрыторыі сучаснай Беларусі** з ласкі блізкіх і далёкіх суседзяў - "добразычліўцаў" **застаўся толькі 1 % (!) беларускіх культурных каштоўнасцяў**. На жаль, па-за межамі краіны (найперш - у Расеі) знаходзіцца пераважная большасць кнігадрукаў Скарыны. Тамсама недзе згубіліся і найпершая беларуская святыня - Крыж Еўфрасінні Полацкай.

Згадваюцца радкі з паэмы "Рагнеда" Лявона Шпакоўскага-Случаніна:

" Нашы скарбы вякамі
цягалі ад нас,
Нашу радасць у гразь
утапталі ..."

Сапраўды, неварагодна вялікая частка беларускіх культурных каштоўнасцяў распылена па ўсім свеце, але і тое, што засталося на Беларусі ўражвае"

Так думалася пад час прагляду экспазіцыі Музея кнігадрукавання ...

Натхнёныя наведваннем музея і мілагучнай беларускай мовай яго супрацоўніцы, накіроўваемся да Сафійскага сабора. І шлях наш ідзе па вуліцы ... Леніна. Гэтая вуліца, з назвай, недарэчнай паміж Музеем і Саборам, успрымаецца намі як сімвал цярновага шляху беларусаў да Храма, Свайго Храма Ля самай Сафіі назва вуліцы Замкавая напісана "по-рюсскі". Горка жартуем : пэўна, у памяць аб Пятры І, які ўласнаручна ўчыніў у Саборы забойства святароў...

О, Сафія !

Ты стваралася для ўзнясення хвалы Госпаду, а была апаганеная дзікунамі, якія, навучыўшыся насіць нямецкія штаны і рэзаць бароды, так і не здолелі вывучыць біблійнае: **"Не забі"**.

Але пасля з попелу, цудам ацалелая падчас разгулу ваяўнічага атэізму, сёння ты цешыш сваім аблічам навыя пакаленні беларусаў. І сёння музыка гучыць у тваіх мурах!

Вось і мы, падарожныя з Менску, прыйшлі да цябе, каб паслухаць гукі твайго аргана. Прыемна дзівуемся: канцэрт арганнай музыкі сабраў шмат слухачоў, і гэта пераважна дзеці, якія прыехалі ў Полацак на экскурсію ...

Пасля Сафійскага сабора наведваем Спаса-Еўфрасіннеўскі кляштарр. На тэрыторыі кляштара адмысловы парадак і чысціня, кветкі на падворку клапатліва прыкрытыя ад марозаў.

У прыгожым будынку Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы шмат народу. Стаяць рыштаванні рэстаўратараў, ужо ёсць аднаўленыя фрэскі.

З трапятаннем у сэрцы падыходзілі да ракі з мошчамі Еўфрасінні Полацкай; пакланяемся праху Святой Апякункі Беларусі. З неперадавальным душэўным хваляваннем па сцёртых ад часу прыступках падымаемся ў невялічкую келлю Святой Еўфрасінні. **Ляціць у свет малітва: за ўсіх нас, за Беларусь ...**

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Дзень, ноч

Кароткае і звонкае слова ***дзень*** гучыць практычна аднолькава на ўсіх славянскіх і балцкіх мовах. Адзін з нашых вялікіх князёў насіў імя Трайдзень (трэці дзень), але меў не зусім высветленае паходжанне. Таму сёння беларусы і летувісы ніяк не могуць прыйсці да згоды наконт яго этнічнай прыналежнасці, бо што ў нас **"дзень"**, што ў іх **"den"** розніца невялікая. Разам з тым гэтая падабенства і прастата слова змусілі звярнуць на яго ўвагу, як на слова, што прэтэндуе на глыбокую старажытнасць. І сапраўды слова ***дзень*** у нас абазначае дзень і больш нічога. Яно ні з якога іншага слова не выводзіцца. Таму адразу звяртаемся да сівых тысячагоддзяў. У санскрыце знайходзім ***dina — дзень.*** І хоць да раскрыцця паходжання нашага слова мы не наблізіліся але, прынамсі, засведчылі, што 3,5 тысячы гадоў назад яно было і гучала амаль так жа як і сёння.

У газеце "Версія" № 3 г.г. прыводзяцца звесткі, згодна з якімі у многіх народаў слова ***дзень*** на гучанні супадае са словам сонца. Напрыклад у шумерскай мове ***ud*** — значыць і ***сонца,*** і ***дзень***.

у турэцкай мове ***gun — дзень, gunes — сонца***. Знешня блізкая сітуацыя і ў санскрыце, але тут пры больш




**Кніга, на аснове якой пішацца "Аповесць пра словы"**

пільным поглядзе акрэсліваюцца карэнныя адрозненні. Так, і ў санскрыце **сонца** мае назву блізкую да слова ***дзень***: ***dina - kara, dina - natha, dina - pati, dina - bhartar, dina - mani*** і г.д., што абазначае ***dina - kara — тварэц дня, dina - bhartar — носьбіт дня, гаспадар дня, dina - mani — пярліна дня***. Як бачна, гучанне падобнае, але з усіх гэтых назваў дакладна вынікае, што ***dina (дзень)*** тут першасны, а ***сонца*** другаснае. Старажытны чалавек першым усвядоміў дзень, а ўжо пасля пачаў унікаць, адкуль той дзень бярэцца. Зразумеўшы, што дзень прыносіць, сонца людзі і далі яму такія эпітэты, як ***тварэц дня, гаспадар дня*** і г.д.

Усвядоміўшы дзень чалавек павінен быў усвядоміць і ноч. Так і ёсць, у санскрыце мы бачым ***nic, nica*** *(ніч.ніш, ніча,ніша)* — ***ноч***, а таксама ***nak, nakta —ноч***. Згадаўшы бліжэйшыя мовы мы заўважым, што па ўкраінску так і будзе ***ніч***, па - летувіску і па - латышску нешта блізкае да ***nakta***, па нямецку ***die Nacht***. Але разам з гэтымі словамі неабходна згадаць што ***na*** на санскрыце абазначае адмоўную часцінку ***не***. ***Nicht*** па-нямецкаму таксама *не*. Ёсць у санскрыце словы ***niccinta — бяздушны, безклапотны, niccetana — бессвядомы, неразумны*** і г.д.. Згадаем слова ***нічога***. І няма выйсця, як зрабіць выскову, што хоць паходжання слова ***дзень*** нават і ў санскрыце мы не выявілі, то слова ***ноч*** узнікла з адмаўленняў. ***Не было святла, нічога не было відно. Нічога не было. Засталіся без усяго.*** Вось што такое ***ноч.***

Аналагічна дню ў ночы павінен быў быць свой тварэц ці гаспадар. Згодна з логікай гэта павінен быць месяц. Так яно і ёсць: ***nica - kara — месяц*** *(тварэц ночы)*, ***niceca — месяц*** *(уладар ночы)*. Можна напісаць мноства эпітэтаў. І ўсе яны будуць абазначаць месяц.

Нават **певень** і той меў сваю назву з удзелам слова ***ноч***: ***nica-vedin — вядун (знаўца) ночы***. Што ж певень дакладна дзеліць ноч на часткі,***ведае ноч***, таму мае права на эпітэт сугучны з эпітатам самога месяца.

***Станіслаў Суднік***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 27. 04. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1199.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.